ЗАПРАШЭННЕ

# «Вырай» для беларускіх паэтаў

*Адзіны ў свеце пленэр для беларускіх паэтаў у трэці раз зладзяць сябры паэткі Таццяны Сапач. Летнік пройдзе 21–25 жніўня на хутары Дубок у хатцы паэткі. Да ўдзелу запрашаюць маладых паэтаў, прагных спазнаваць і развівацца.*

*Строгіх узроставых абмежаванняў няма.*

“Цягам пленэру паэты змогуць паглядзець на ўласную творчасць па-новаму разам з рэдактарамі ды сапраўднымі майстрамі слова, адкрыць для сябе незнаёмую Беларусь і творчасць іншых”, – інфармуе прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Першыя два пленэры адбываліся ў вёсцы Маркава на Маладзечаншчыне – у хаце, дзе вырасла Таццяна Сапач. Свае лекцыі, прэзентацыі ды майстар-класы для іх ладзілі Сяргей Дубавец, Ірына Дубянецкая, Міхась Казлоўскі, Кася Камоцкая, Сяргей Верамейчык і іншыя сябры паэткі Таццяны Сапач.

Удзел у пленэры бясплатны, умовы не спартанскія, але вандроўныя.

НАДО ИДТИ!

# Классика у Ратуши

*На концерте 17 августа зрителей фестиваля «Классика у Ратуши с А1» ждут сразу три события: выступление Государственного камерного оркестра Республики Беларусь, показ отмеченного международными фестивалями анимационного фильма и соло пианиста-виртуоза Тимура Сергеени.*

Первым выступит один из ведущих коллективов страны – Государственный камерный оркестр Республики Беларусь под управлением маэстро **Евгения Бушкова**. А главным событием вечера станет исполнение цикла пьес «Картинки с выставки» Модеста Мусоргского в оркестровке российского и канадского виолончелиста и дирижера **Юлия Туровского**. Пока оркестр будет играть, на экране у сцены покажут анимационный фильм, созданный по картинам современной художницы **Натальи Туровской**.



«Картинки с выставки» – знаменитый цикл фортепианных пьес, написанных в 1874 году Модестом Мусоргским под впечатлением от творчества его друга, художника Виктора Гартмана. Этот цикл вдохновил художницу и музыканта Наталью Туровскую на создание сначала рисунков, а затем и короткометражного анимационного фильма «Танцующие рисунки с выставки». Эту анимацию включили в программу нескольких международных кинофестивалей, в том числе Short Film Corner в Каннах. А саму короткометражку показывали зрителям на концертах оркестра I MUSICI de Montréal в турах по США, Испании, Бразилии, Канаде и Колумбии. Государственный камерный оркестр также использовал этот фильм в своей программе, которую увидят зрители на площади Свободы.

Во втором отделении концерта выступит **Тимур Сергееня** – белорусский пианист и дирижер, профессор Высшей школы искусств Королевской консерватории Гента в Бельгии.

Музыкальные вечера у Ратуши неизменно проводятся при поддержке компании А1 и Мингорисполкома. Вход на концерты свободный.

ІНІЦЫЯТЫВА

# За гродзенскімі прывілеямі прыйшлося ехаць у Пецярбург

*Група беларускіх гісторыкаў працуе над падрыхтоўкай да выдання прывілеяў для Гродна, нададзеных гораду ў канцы XV – першай палове XVIII стагоддзя. Горад атрымаў іх у сувязі з прыняццем у 1496 годзе Магдэбургскага права.*

### Магдэбургскае права для Гродна было падпісана ў Берштах

У Беларусі ніводзін з гарадоў не перавыдаў прывілеі, якія надаваліся яму з атрыманнем Магдэбургскага права ў часы Вялікага Княства Літоўскага. У суседніх Літве, Польшчы і нават ва Украіне многія гарады маюць сучасныя выданні прывілеяў.

Мэтай выдаць зборнік гродзенскіх прывілеяў задаўся доктар гістарычных навук Ягелонскага ўніверсітэта **Юрый Гардзееў**, які нарадзіўся ў Гродне і выдаў некалькі кніг пра гісторыю горада над Нёманам, у тым ліку «Магдэбургская Гародня».

Ён тлумачыць, што Магдэбургскае права – гэта сукупнасць нормаў права, якія рэгулявалі жыццядзейнасць мяшчан гарадоў, што атрымалі права на самакіраванне. Першым такім горадам стала Вільня. Яна атрымала прывілей на самакіраванне ў 1387 годзе, а ўжо пазней, у канцы XV ст., ён быў нададзены Гродна.

Для Гродна Магдэбургскае права было падпісана ў вялікакняскім двары ў Берштах – цяпер гэта вёска ў Шчучынскім раёне. Яго выдаў гораду ў 1496 годзе вялікі князь Аляксандр Ягайлавіч. *«У манархаў былі свае звычкі. Магчыма ён там знаходзіўся на паляванні,* – разважае гісторык. – *Пасля Магдэбургскае права надавалася многім гарадам Вялікага Княства Літоўскага».*

У Гродне з таго часу пачало працаваць самакіраванне: з’явіліся органы ўлады, гарадскі суд, фарміравалася гарадская абшчына, пачалі складацца гарадскія кнігі.

Пасля атрымання Магдэбургскага права Гродна былі нададзены каля 30 прывілеяў, кожны наступны пашыраў правы гараджан.

*«Вядома, што апошні прывілей-пацвярджэнне гораду быў выдадзены ў 1744 годзе,* – кажа Гардзееў. – *Ён, дарэчы знаходзіцца ў Вільнюсе. Гэта вялікі па аб’ёме прывілей, паколькі ў ім паўтараліся ўсе ранейшыя і дадаваўся новы».*

Дакументы пісаліся на латыні, на старабеларускай і польскай мовах. Яны захоўваліся ў архіве магістрата (адміністрацыі горада).

*«Я так мяркую, што пасля паўстання 1830–1831 гадоў гэтыя прывілеі былі перавезены ў Санкт-Пецярбург па загадзе вышэйшага кіраўніцтва,* – кажа Гардзееў. – *Большасць з іх знаходзіцца ў навукова-даследчым архіве Санкт-Пецярбургскага інстытута гісторы РАН».*

Археаграфічная камісія ў Пецярбургу ў XIX стагоддзі выдала некалькі арыгінальных прывілеяў на старабеларускай мове, а астатнія так і засталіся ляжаць некранутымі ў архіве.

### «Я сам паехаў у расійскія архівы»

Дарэчы, паводле слоў гісторыка, ніхто з адмыслоўцаў дагэтуль не даследаваў матэрыялы гарадскога архіва, у якім захоўваліся прывілеі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай.

Не захавалася, на жаль, архіва Гродзенскага гарадскога магістрата, засталіся толькі справаздачы губернатара, але гэтага, скардзіцца гісторык, замала, каб цалкам уявіць сітуацыю.

*«Аб дзейнасці гарадскога магістрата і яго архіве можна меркаваць толькі на падставе ўскосных крыніц,* – кажа Гардзееў. – *Як вядома, фактычна ўсе рэформы ў Расійскай імперыі праводзіліся ў другой палове XIX стагоддзя, калі ўводзіліся гарадскія думы».*

Гардзееў кажа, што яму даўно карцела пабачыць гэтыя дакументы ў піцерскіх архівах, але не ўдавалася туды паехаць. Для чалавека, які ўсё жыццё займаецца толькі навукай, гэта не вельмі таннае падарожжа. Нагода з’явілася шэсць гадоў таму. Знайсці дакументы было нескладана, паколькі яны значыліся ў архіўным даведніку.

І вось цяпер група беларускіх гісторыкаў рыхтуе арыгіналы прывілеяў да друку.

***

Цікавай выглядае сітуацыя. Калі будуць апублікаваны прывілеі 500-гадовай даўніны, то кожны жыхар Гродна зможа прачытаць, што горадам кіравалі рада і лава (суд), якія складалі магістрат. На чале яго стаяў войт. Дарэчы, ён абіраўся жыхарамі горада, а не прызначаўся, як цяпер старшыня гарвыканкама.

Гісторык зазначае, што, вядома, нельга капіраваць тое самакіраванне, паколькі свет у многім змяніўся, але без самакіравання не існуе зараз ніводзін горад у цывілізаваным свеце.



Юрый Гардзееў.

**Глеб МАКАРАЎ.**

СЯМ’Я

# Здымак на памяць

*Міраслава і Генрых Варэнікі 40 гадоў адпрацавалі фатографамі, апошнія 30 – у горадзе Масты Гродзенскай вобласці. Аб’ектывы іх фотаапаратаў фіксавалі, як разбудоўваўся раённы горад, як жылі, працавалі, хадзілі ў школу, браліся шлюбам, нараджаліся і паміралі мастаўчане.*

*Міраслава Феліксаўна цяпер вырошчвае кветкі, у яе гародзе каля 500 розных раслін. Генрых Людвікавіч займаецца гаспадаркай. Але абодва з задавальненнем згадваюць, як і каго некалі фатаграфавалі. Дарэчы, зусім нядаўна яны адзначылі сваё залатое вяселле.*

### Фатаграфіяй заняліся выпадкова

Генрых Людвікавіч і Міраслава Феліксаўна родам са Шчучынскага раёна. У сярэдзіне 60-х гадоў мінулага стагоддзя Генрыха Варэніка прызвалі ў войска. Служыў у Кіргізіі, і там камандзір заахвоціў яго да фатаграфіі. Згадвае, што атрымліваў салдацкія 3 рублі 60 капеек, часам нейкія грошы прысылалі з дому, адкладваў іх і сабраў на фотаапарат «Зоркий».

*«Пасля войска не хацеў ніякай іншай працы,* – распавядае Генрых Людвікавіч. – *У Шчучыне быў вельмі харошы фатограф сталага веку, я пры ім некалькі месяцаў вучыўся, а пазней мяне з раёна накіравалі працаваць у вёску Васілішкі. Так пачыналася мая працоўная дзейнасць».*



Міраслава і Генрых Варэнікі.

Міраслава Феліксаўна ўсміхаецца і распавядае, што паехала ў Мінск паступаць на цырульніка, але аказалася, што вольных месцаў няма, і ёй прапанавалі вучыцца на фатографа.

*«Я тады нават не ведала, што такое фатаграфія,* – згадвае жанчына. – *Але і вярнуцца ў вёску не магла, бо што скажуць бацькі, людзі: не паступіла. Ну вось так і засталася...»*

### Фатограф у вёсцы быў паважаным чалавекам, як настаўнік ці доктар

Генрых Людвікавіч згадвае, што ехаў працаваць у вёску натхнёны тым, што ўрэшце пачнецца самастойная дзейнасць, без настаўніка. Яго не палохала тое, што атэлье было ў старой хаце, што да райцэнтра нязручна дабірацца. У яго быў фотаапарат на трынозе, ён рабіў чорна-белыя здымкі так, як лічыў патрэбным. І, дарэчы, кліентаў хапала, нягледзячы на тое, што гэта была вёска.

*«Здымкі тады рабілі на дакументы: на пашпарт, на пасведчанне кіроўцы, камсамольскія, прафсаюзныя, партыйныя дакументы,* – пералічвае Варэнік. – *Ніводнае вяселле, ніводнае пахаванне таксама тады ў вёсцы не абыходзіліся без фатографа».*

Больш, канешне, былому фатографу згадваюцца вяселлі. Здымаў найперш у касцёле, а калі вяселле адбывалася зімой, то фатаграфаваў, як маладыя едуць тройкай коней. Здымкі падчас атрымліваліся мастацкія, і людзям гэта вельмі падабалася.

*«Такога не было, каб вяселле адбывалася без вянчання, ксяндза і фатографа,* – згадвае спадар Варэнік. – *І фатограф у вёсцы быў чалавекам паважаным, як настаўнік ці доктар. Фатографа заўсёды запрашалі за стол і з пустымі рукамі ніколі дамоў не адпраўлялі».*

Напрыканцы навучальнага года аб’язджаў усе навакольныя школы і рабіў здымкі кожнага класа. І ніколі не было так, каб нейкі клас у школе адмовіўся фатаграфавацца.

Міраслава Феліксаўна прыгадала, што ў тыя часы заўсёды імкнуліся, каб чалавек выглядаў на здымку жыццярадасным, але з гэтым часта былі праблемы.

*«Асабліва, калі прыводзілі фатаграфаваць дзетак. Некаторыя плакалі, можа, баяліся, дык мы перад імі часам толькі што не танцавалі, каб дзіця заўсміхалася,* – згадвае яна. – *Здымак рабілі на ўсё жыццё і разумелі, што чалавек яго можа паглядзець праз некалькі дзесяцігоддзяў».*

### Паслуга была даступнай, і людзі любілі фатаграфавацца

Генрых Людвікавіч кажа, што іх паслуга была даступнай для людзей. Маўляў, кілаграм мяса тады каштаваў 1 рубель 70 капеек, а адзін маленькі здымак на дакумент – 30 капеек. Паводле яго слоў, людзі тады вельмі любілі фатаграфавацца і заўсёды на самыя розныя ўрачыстасці запрашалі фатографа.

*«Шмат грошай мы не зараблялі, а працы хапала,* – распавядае Генрых Людвікавіч. – *Калі здымалі вяселле альбо пахаванне, то можна было зарабіць нават тры рублі, а часам і болей, калі шмат здымкаў заказвалі».*

Міраслава Феліксаўна дадае, што яны заўсёды атрымлівалі заробак у залежнасці ад таго, колькі зробяць.

*«Калі я толькі пачала працаваць, то нам плацілі 45% ад месячнай выручкі. Пазней сталі плаціць – 39%, яшчэ пазней – 33%, 27%, а ўжо перад самай пенсіяй наогул 11%,* – удакладняе спадарыня. – *Мы ніколі не мелі ніякіх прэмій, ільгот, часам атрымлівалі ганаровыя граматы, значкі».*

Дарэчы, адпрацаваўшы па 40 гадоў, цяпер з былой працы іх ніхто не ўзгадвае і не віншуе са святамі.

### «Канкурэнцыі ніякай не было»

Генрых Людвікавіч і Міраслава Феліксаўна распавядаюць, што падчас іх працы спачатку ў вясковых атэлье, а пазней у Мастах яны ніколі не мелі праблем з фотаматэрыяламі. Абодва згадваюць, што ў 1960-я і нават 1970-я гады ў вёсках амаль ніхто не меў фотаапаратаў, бо па тых часах гэта было не так ужо і танна.

*«Акрамя рэактываў, плёнкі трэба было мець фотапавелічальнік, глянцавацель – а дзе і за што гэта было набыць тады вясковаму чалавеку?»* – кажа Міраслава Феліксаўна.

### «Тады ў людзей былі вельмі добрыя твары»

Калі мы загаварылі пра партрэты, я пацікавіўся: чым адрозніваліся іх кліенты ад сучасных? Генрых Людвікавіч кажа, што яму запомнілася адна асаблівасць.

*«Тады ў людзей былі вельмі добрыя твары, з іх гэта дабрыня папросту дыхала,* – кажа былы фатограф. – *І гэта нягледзячы на тое, што людзі шмат працавалі, жылі няпроста, але ў іх вачах, калі яны заміралі перад камерай, я бачыў надзею на лепшае, а вось сёння ў вачах людзей часцей такога няма».*



Партрэты Міраславы і Генрыха Варэнікаў у маладосці.

Аднойчы Генрых Людвікавіч фатаграфаваў міністра разам з калектывам Мастоўскай сельгастэхнікі. Згадвае, што бачыў міністра першы раз, але быў уражаны, што знешне па адзенні ён амаль нічым не адрозніваўся ад звычайных людзей.

*«Памятаю, што ў яго нават чаравікі былі такія самыя, як у мяне,* – распавядае спадар Варэнік. – *І калі я яго фатаграфаваў, то заўважыў, што ў яго чаравікі былі не зашнураваны. Сказаць яму было няёмка, так і сфатаграфаваў. А ўявіце цяпер міністра, каб ён быў так апрануты, як звычайны чалавек...»*

Міраслава Феліксаўна кажа, што часам сустракае людзей, якія вітаюцца з ёй у горадзе, але яна іх не ведае. Некаторых фатаграфавала 20–30 гадоў таму, і яны дагэтуль дзякуюць ёй за партрэт, які яна зрабіла.

*«Насамрэч, цяпер людзі нават самі сябе фатаграфуюць, здымкі каляровыя, але яны не могуць параўнацца з той чорна-белай фатаграфіяй,* – заўважае жанчына. – *Калі ўдаваўся чорна-белы здымак, то на ім акрамя твару яшчэ была і душа, і характар чалавека. Цяпер, канешне, ёсць вельмі прафесійныя фатографы, але каляровы здымак не можа перадаць таго, што раней змяшчалася на чорна-белым».*

*«Тады трэба было быць сапраўдным спецыялістам, каб зрабіць добры чорна-белы здымак,* – падкрэслівае Генрых Людвікавіч. – *Ад фатографа патрабавалася прафесійная падрыхтоўка, тэхніка была іншая, і на аўтаматыку ніхто нічога не мог паставіць».*

Міраслава Феліксаўна распавядае, што шмат працавала з рэтушшу, і гэта была не вельмі простая справа. Бывала, што над адным здымкам даводзілася сядзець па некалькі дзён. Праўда, тут жа дадае, што атрымлівала шмат задавальнення, калі чалавек прыходзіў забіраць партрэт і ў яго адразу свяціліся вочы.

*«Аднойчы фатаграфавала маладую пару, і ў хлопца палова шчакі была апечанай. Я рэтушыравала гэты здымак тры дні,* – згадвае Міраслава Феліксаўна. – *Урэшце хлопец на ім атрымаўся прыгажэйшы за нявесту. І калі яны прыйшлі забіраць здымак і дзяўчына яго пабачыла, то адразу абурылася: маўляў, як такое можа быць. Гэты выпадак запомніўся на ўсё жыццё».*

### «Мяне ўсё яшчэ гэта цікавіць»

Генрых Людвікавіч кажа, што ўся яго праца была для душы, ён ўсё жыццё імкнуўся, каб здымкі былі цікавейшыя. Любіў здымаць сваю сям’ю, асабліва, калі з вучобы прыязджалі дзеці, а потым пачалі прыязджаць унукі.

Ён распавядае, што з яго дзяцей ніхто не стаў фатографам, а вось адна ўнучка гэтай справай цікавіцца. Сам ён цяпер амаль не здымае, займаецца хатняй гаспадаркай. А вось Міраслава Феліксаўна свой прафесійны занятак забыць не можа. Нават калі працавала, то для душы здымала шмат пейзажаў на Нёмане, любіла фатаграфаваць дрэвы, расліны, жучкоў і матылькоў, птушак, вужоў. Унукі некалі падарылі ёй «мыльніцу». Яна працягвае здымаць...

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ПАЗІЦЫЯ

# Сябры ТБМ просяць гродзенцаў аддаваць сваіх дзетак у беларускія класы

*Гродзенская абласная Рада ГА “Таварыства беларускай мовы” з гэтай нагоды прыняла заяву да жыхароў вобласці.*

Кіраўніцтва ТБМ канстатуе, што ў школу №32 Гродна для адкрыцця аднаго класа з беларускай мовай набралі дастаткова вучняў, а вось у школу №34 падала заяўку толькі адна сям’я. І менавіта найперш гэтую сям’ю просіць падтрымаць кіраўніцтва ТБМ.

*“У беларускім класе гэтай школы вашым дзецям будзе вучыцца лягчэй і эфектыўней. Бо беларускі клас звычайна не больш за 10 чалавек. І вучыцца ў ім могуць дзеці, якія жывуць у розных месцах горада, без абмежаванняў,* – гаворыцца ў звароце. – *Дададзім, што СШ №34 мае свой басейн, гурткі па зацікаўленнях, мае сваю школьную форму і таленавітых педагогаў”.*

Кіраўнік абласной суполкі ТБМ Віктар Парфёненка заўважыў “Народнай Волі”, што, на жаль, сітуацыя з адкрыццём у Гродне беларускамоўных класаў з году ў год не змяняецца.

*“Мы, вядома, падтрымліваем кантакты з аддзелам адукацыі гарвыканкама, ходзім у школы на сходы і агітуем бацькоў, многія нам пляскаюць у далоні, але, на жаль, усё застаецца на адным і тым самым месцы,* – канстатуе Парфёненка. – *Прычыны гэтага даўно зразумелыя: у Беларусі не існуе нават рэальнага двухмоўя, у дзяцей, якія скончаць беларускія класы, няма перспектывы працягваць адукацыю на роднай мове. Я ўжо не кажу пра больш дробныя дэталі моўнай палітыкі дзяржавы”.*

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

УРАЖАННІ

# ВЕНЕЦЫЯ: 30 мільёнаў турыстаў у год

Так сталася, што я ўсё жыццё марыў трапіць у цудоўную Венецыю. Мара здзейснілася – праўда, прабыў я там у складзе турыстычнай групы толькі нейкія пяць з паловай гадзін.

Горад гэты зусім нездарма называюць музеем пад адкрытым небам: шматлікія масты і масткі, вузкія вулачкі, якія, нібы артэрыі, робяць горад непаўторна жывым і прыгожым, надаюць яму асаблівы шарм.

Для мільёнаў турыстаў, што наведваюць Венецыю кожны год, асабліва прывабнымі мясцінамі выглядаюць плошча Святога Марка, Мост Рыяльта і вялікая колькасць невялікіх астравоў, на якіх і віруе венецыянскае жыццё. Акрамя гэтага, самі ідылічныя кварталы з рознымі мастацкімі і гандлёвымі вабнотамі фарміруюць унікальнае і непаўторнае аблічча горада.

Галоўная водная магістраль, Гранд-канал, мае 4 кіламетры ў даўжыню і 70 метраў у шырыню. Гранд-канал дзеліць горад на шэсць частак, злучаных паміж сабою чатырма вялікімі мастамі, сярод якіх самы прыгожы, бясспрэчна, Мост Рыяльта. А ёсць жа яшчэ і цудоўныя Мост Скальцы ды чырвоны Мост Акадэміі!

Каб патрапіць з адной часткі Венецыі ў іншую, у распараджэнні турыстаў ёсць не толькі ўласныя ногі. За плату вас правязуць маленькія турыстычныя катары-“вапарэта” або гандолы. Дарэчы, гандола каштуе не менш за саліднае аўто, і гэта таксама своеасаблівы шэдэўр мастацтва. Права кіравання гандолай можна атрымаць толькі пасля здачы адмысловага экзамена.

Сімвал Венецыі і самае значнае месца горада на вадзе – плошча Святога Марка ў квартале Сан-Марка. І гэта адзіная плошча, якая так і называецца адпаведным італьянскім словам “п’яца”. Усе іншыя плошчы гэтага горада маюць сціплую назву “кампа”, што значыць “поле”. Пярліна ансамбля плошчы Святога Марка – аднайменны велізарны сабор, пачатак будаўніцтва якога сягае аж у далёкі 832 год, а цяперашняе канчатковае аблічча ён набыў у першай палове XVII стагоддзя. Менавіта гэтаму велічнаму сабору прысвечаны паэтычныя радкі аднаго з волатаў беларускага адраджэння мінулага стагоддзя Вацлава Ластоўскага:




*…Масіў яго к зямлі прырос,*
*як собіна святая,*
*і толькі Апалонаў воз*
*імкнецца да нябёс.*
*Ўнутры вачамі грозных ўладароў*
*з залочанага стропу на шэры дол*
*святыя поснікі халодным зрокам*
*з суровасцю нямой глядзяць!*

Побач з саборам знаходзіцца не менш адметная, амаль стаметровая ў вышыню званіца Кампаніле-дзі-Сан-Марка, пабудаваная ў 911 годзе і пасля разбурэння ўзноўленая на пачатку мінулага стагоддзя. Узышоўшы на яе, турысты могуць усцешыцца відам на ўсю Венецыю.

Непасрэдна каля плошчы Святога Марка на марскім узбярэжжы знаходзіцца знакаміты шэдэўральны Палац дожаў, сімвал незалежнай венецыянскай свецкай улады, пачатак будаўніцтва якога таксама прыпадае на дзявятае стагоддзе.

У сэрцы Венецыі ў гарманічным адзінстве выступаюць гісторыя, мастацтва і еўрапейская адукацыя. Будынак заснаванай у XV стагоддзі знакамітай школы Грандэ-дзі-Сан-Рока адметны, акрамя іншага, і тым, што ўнутры яго экспануюцца 56 палотнаў знакамітага жывапісца Якопа Цінтарэта. А непадалёк знаходзіцца храм, у якім быў ахрышчаны і пазней выконваў свае творы геній музычнага мастацтва Антоніа Вівальдзі. Калі прайсці яшчэ крыху ў іншы бок, можна дайсці да будынка оперы, што размяшчаецца ў палацы Барбарыга Мінота.

У цэнтры Венецыі можна трапіць у музей Гугенхайма, у якім экспануюцца творы Пабла Пікаса, Макса Эрнста, Васілія Кандзінскага, Ганса Арпа, Жуана Міро ды іншых майстроў мадэрнісцкага мастацтва.

Аповед пра цудоўныя мясціны старадаўняй Венецыі можна доўжыць і доўжыць, але я хацеў бы спыніцца і на тым, што складае праблему для горада-музея.

Перачытаўшы мясцовую прэсу, паглядзеўшы колькі перадач па мясцовым тэлебачанні, я вырашыў падзяліцца гэтай інфармацыяй з чытачамі “Народнай Волі”. Бо ведаю, што мара пабываць у “горадзе каналаў і гандол” жыве ў душы шмат каго з беларусаў.

Колькасць турыстаў, якія штогод наведваюць Венецыю, ацэньваецца, не паверыце, у 30 мільёнаў чалавек (дзеля параўнання: уся Грэцыя прымае штогод недзе крыху больш за 10 мільёнаў гасцей)! Даваць рады з такім патокам прыезджых гарадскім і дзяржаўным уладам з кожным годам робіцца ўсё больш складана. Да інфраструктурных складанасцяў дадаецца і яшчэ адна велізарная праблема: цягам апошніх стагоддзяў гарызонт Венецыі апускаецца. Некаторыя часткі той жа плошчы Святога Марка ўжо знаходзяцца на некалькі сантыметраў ніжэй за ўзровень мора. Сотні спецыялістаў ламаюць галаву над тым, якім чынам можна падняць пэўныя часткі гістарычнага горада і стварыць гарантыю таго, што ён не пацярпіць ад чарговай вялікай паводкі, якія ў тых мясцінах не рэдкасць.

З канца 2018 года для транзітных наведвальнікаў горада на вадзе ўведзены абавязковы збор, які складае на сёння тры еўра, а ў перспектыве будзе падвышаны да 10 еўра на асобу. Але і гэта не дазваляе пераадолець існуючыя цяжкасці. Як піша ў сваім твітары мэр Венецыі Луіджы Бруньяра, гарадскія ўлады імкнуцца выпрацаваць такія правілы, якія ўратавалі б Венецыю і адначасова былі б дастаткова ўзважанымі. Ужо сёлета з верасня плануецца наогул абмежаваць колькасць турыстаў, якія прыбываюць у Венецыю самастойна. Падобныя меры ў Еўропе не навіна. У той ці іншай ступені яны ўжываюцца ў такіх гарадах, як Парыж, Барселона, Амстэрдам, Дуброўнік, Люцэрн…

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**
*Мінск – Венецыя – Мінск.*

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Фільм паводле сцэнарыя Андрэя Курэйчыка атрымаў найвышэйшы рэйтынг за ўсю гісторыю кінапракату Кітая

*Мастацкі фільм «Рух угару» («Движение вверх»), зняты расійскім рэжысёрам **Антонам Мягердзічавым** паводле сцэнарыя беларускага драматурга **Андрэя Курэйчыка**, атрымаў найвышэйшы рэйтынг для замежных стужак за ўсю гісторыю пракату Кітая – 9,4.*

*Пра гэта піша сайт Міністэрства культуры Расіі, перадае Радыё Свабода.*

Стужка расказвае пра матч паміж зборнымі СССР і ЗША ў фінале баскетбольнага турніру 1972 года на Алімпійскіх гульнях у Мюнхене.

Вадзім Верашчагін, генеральны дырэктар кампаніі «Централ Партнершип», задзейнічанай у здымках карціны, адзначыў, што гэтае кіно стала самым паспяховым пракатным прадуктам на такім спецыфічным рынку.



*«Кітай – няпростая тэрыторыя для замежных фільмаў, многія з якіх маюць шанец толькі на адзін выхадны дзень. Стужка «Движение вверх» стала выключэннем: выдатная запоўненасць залаў, высокія рэйтынгі і станоўчыя водгукі гледачоў. Гэта беспрэцэдэнтная падзея, і мы задаволены, што кінафільм дасягнуў такой вышыні»*, – падкрэсліў менеджар.

Паводле папярэдняй інфармацыі, кінастужку паглядзелі больш за 2,5 мільёна чалавек, з пракату сабрана 13 мільёнаў долараў.

СТИЛЬ ЖИЗНИ

## «Всегда улыбайтесь!»

*Жанна Луиза Кальман установила мировой рекорд продолжительности жизни – 122 года и 164 дня. В чем секрет ее долголетия? Видимо, судьбе просто нравилось, как живет мадам Кальман.*

Жанна – француженка, она родилась в Орли. Когда построили Эйфелеву башню, ей было 14 лет. В это время она встречалась с Ван Гогом. «Он был грязен, плохо одет и хмур», – заявила она в одном интервью в 1988 году во время празднования его столетия.

В 85 лет Жанна Кальман занималась фехтованием, а в 100 ездила на велосипеде. В 114 лет снялась в кино, в 115 перенесла операцию на бедре, а в 117 бросила курить. И не потому, что плохо себя чувствовала. Просто ей, почти потерявшей зрение, было неприятно каждый раз просить прикурить.

В 90 лет Жанна, у которой не осталось наследников, заключила договор с 47-летним юристом Раффри: он должен был унаследовать дом старушки за то, что будет каждый месяц до ее смерти выплачивать ей ренту. Стоимость дома примерно равнялась сумме, которую он выплатил бы за 10 лет. Однако судьба не удержалась от улыбки. Раффри не только платил Жанне в течение 30 лет, но и умер раньше нее, в свои 77, а выплаты по закону продолжила его вдова.

До последних дней мадам Кальман сохранила ясность и остроту ума. Когда Жанну на 120-м дне рождения спросили, каким, по ее мнению, окажется будущее, мадам дала гениальный ответ: «Очень коротким».



### Цитаты и правила жизни Жанны Кальман:

«Молодость – это состояние души, а не тела. Поэтому я еще совсем девчонка, просто последние 70 лет плохо выгляжу».

«У меня всего одна морщинка, и я сейчас сижу на ней».

«Бог обо мне позабыл!»

«Я влюблена в вино».

«Всегда улыбайтесь. Так я объясняю причину своего долголетия».

«Если вы с чем-то не можете ничего поделать, не переживайте из-за этого».

«У меня огромное желание жить и хороший аппетит, особенно к сладостям».

«Я никогда не пользуюсь тушью для ресниц, потому что много смеюсь до слез».

«Я плохо вижу, плохо слышу и чувствую себя плохо, но все это ерунда».

«Мне кажется, что я умру от смеха».

«Я получала удовольствие при любом удобном случае, я соблюдала принципы морали, и мне не о чем жалеть. Мне повезло».

В одном из интервью корреспондент при прощании сказал ей: «Увидимся! Может быть, в следующем году...» На что Кальман бросила: «Почему бы и нет? Вы не так уж плохо выглядите!»

АТЫ-БАТЫ

## Численность армии Польши должна вырасти до 200 тысяч солдат

*Министр национальной обороны **Мариуш Блащак** считает одним из приоритетов своей деятельности увеличение численности армии. Достичь этой цели поможет кампания «Стань солдатом Республики Польша», говорит министр.*

Он напомнил, что сейчас польская армия насчитывает более 100 тысяч военных.

«У нас должно быть по крайней мере 200 тысяч. Я убежден, что польская армия должна насчитывать еще больше солдат, потому что это является гарантией безопасности», – отметил министр.

Кампанию «Стань солдатом Республики Польша» Министерство национальной обороны начало 14 октября 2018 года. В ходе кампании путем прямых разговоров с населением присоединиться к армии агитируют сами военные.

Как известно, польская армия **переживает дефицит** профессиональных военных и гражданского персонала, поэтому Министерство национальной обороны делает все, чтобы привлечь людей к службе в армии.

ПОЗИЦИЯ

## Датская партия призвала Евросоюз запретить фуа-гра

*Социалистическая народная партия Дании призвала Европарламент запретить производство и продажу фуа-гра на территории всего ЕС из-за жестокого обращения с животными, без которого приготовление этого деликатеса невозможно.*

Фуа-гра – один из кулинарных специалитетов Франции. Он готовится из печени специально откормленных гусей или уток. Животных перекармливают, в результате чего у них развивается синдром жирной печени (из-за жировых отложений печень птицы увеличивается в 6–10 раз).

В самой Дании производство фуа-гра запрещено, как и в некоторых странах ЕС (так, в прошлом году стало известно, что с 2023 года во Фландрии будет закрыто производство фуа-гра). Но, по правилам общего рынка в ЕС, Дания не может запретить повсюду импорт деликатеса.

ТЕНДЕНЦИИ

## Иностранные студенты выбирают Европу

*За последние 5 лет иностранных студентов в европейских университетах стало больше на 22%. Теперь их 1,7 миллиона, сообщает европейское статистическое агентство Евростат.*

Чаще всего в европейские вузы приезжают из других стран ЕС – таких больше 90% среди студентов-иностранцев.

Самая большая доля иностранных студентов оказалась в Люксембурге – 47% всех бакалавров и магистров, которые учатся в этой стране. Следом с большим отрывом идет Кипр (23%), за ним Австрия (17%).

А меньше всего иностранцев учится в университетах Греции, Испании и Хорватии (по 3%). При этом Испания лидирует по количеству студентов программ Erasmus+, в которых участвуют как европейцы, так и жители других стран, в том числе России.

ЧУЛІ?

## У Нарачы ўшануюць памяць жонкі польскага прэзідэнта Леха Качыньскага

Марыя Качыньская, у дзявоцтве Мацкевіч, нарадзілася ў 1942 годзе ў вёсцы Махава – гэта недалёка ад беларускага мястэчка Нарач (у тыя гады яно мела назву Кабыльнік). Марыя была ахрышчана ў мясцовым касцёле Святога Андрэя, адпаведны запіс захаваўся ў метрычнай кнізе гэтай парафіі ў польскім Сопаце. Бацькі Марыі – Чэслаў Мацкевіч і Лідзія Пішчака – перабраліся ў Польшчу пасля Другой сусветнай вайны. Тут будучая першая лэдзі Польшчы (2005–2010 гады) вучылася на эканаміста.

Два гады таму дырэктар Польскага інстытута ў Мінску **Матэвуш Адамскі** разам з беларускімі калегамі знайшлі месца, дзе стаяў дом Мацкевічаў, у якім нарадзілася Марыя. А сёлета на касцёле Святога Андрэя ў Нарачы з’явіцца мемарыяльная дошка ў памяць пра Марыю Качыньскую. З такой ініцыятывай выступіла Пасольства Польшчы ў Беларусі, звярнуўшыся з адпаведнай прапановай да беларускіх дзяржаўных улад і ўлад мясцовага касцёла.


© AP

Дошка выканана ў форме разгорнутай кнігі з крыжам у верхняй частцы, пад якім на беларускай і польскай мовах напісана: «У гэтым касцёле 27 верасня 1942 года была ахрышчана Марыя Качыньская (Мацкевіч), якая нарадзілася 21 жніўня 1942 г. у Махаве на тэрыторыі мясцовай парафіі, жонка прэзідэнта Рэспублікі Польшча Леха Качыньскага».

Як вядома, Марыя і Лех Качыньскія загінулі ў жудаснай авіякатастрофе 10 красавіка 2010 года пад Смаленскам. Разам з імі ў тым самалёце знаходзіліся 88 чалавек польскай дэлегацыі – афіцыйныя асобы, грамадскія дзеячы і прадстаўнікі духавенства розных канфесій, якія накіроўваліся ў Катынскі мемарыял, каб ушанаваць памяць пра сваіх суайчыннікаў. 10 красавіка 2010 года стаў трагічным днём для ўсёй Польшчы.

Дарэчы, урачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў памяць Марыі Качыньскай адбудзецца 22 жніўня падчас Святой імшы, якую ўзначаліць мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Як паведамляе сайт Касцёла на Беларусі (catholic.by), у памятнай цырымоніі возьмуць удзел афіцыйныя прадстаўнікі Польшчы. *«Яны адзначаюць, што памяць пра жонку прэзідэнта Леха Качыньскага Марыю жыве ў іх краіне і што адкрыццё мемарыяльнай дошкі на яе малой радзіме паспрыяе далейшаму развіццю братэрскіх адносін паміж народамі Польшчы і Беларусі, з’яднанымі шматвяковай супольнай гісторыяй»*, – адзначаецца ў паведамленні.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПЛАНЫ НА БУДУЩЕЕ

## Вместо самолета – поезд!

*К 2035 году поезда в Германии будут перевозить вдвое больше пассажиров, чем сейчас, а железнодорожное сообщение в Германии должно стать настолько удобным, что внутренние авиаперелеты практически полностью отойдут в прошлое. С таким заявлением выступила фракция «Зеленых» в немецком бундестаге.*

Депутаты предлагают кардинально улучшить железнодорожное сообщение в стране: увеличить количество поездов, избавиться от задержек и опозданий, снизить цену билетов и оснастить все вагоны удобным Wi-Fi. На это они предлагают выделять 3 миллиарда евро ежегодно.

Также немецкие парламентарии предлагают возобновить ночные железнодорожные маршруты в другие страны ЕС. С похожим предложением выступала Австрийская железнодорожная компания (ÖBB).

Кроме того, депутаты предлагают перестать субсидировать авиаперевозки и ввести налог на авиакеросин в размере 65 евроцентов за литр (такой же, как на бензин). Причем налог должен быть введен, считают они, во всем Евросоюзе – иначе самолеты немецких авиакомпаний будут заправляться в соседних странах.

Ранее о новых налогах на авиаперевозки сообщила Франция – из-за них авиабилеты из Франции с 2020 года подорожают на сумму от 1,5 до 18 евро. Помимо Франции и Германии о готовности ввести новые налоги на авиаперевозки заявили Нидерланды, Люксембург, Бельгия и Швеция.

СТИЛЬ ЖИЗНИ

# Алексей КОРЯГИН: «Наслаждайтесь полетом!»

*Бизнесмен, основатель компаний «Диамантпром» и «Платина-груп», лауреат премии «Человек года-2019» в номинации «За безукоризненное поведение в непростых рыночных ситуациях» Алексей Корягин считает, что свобода – это привилегия быть самим собой. И она пока доступна лишь единицам.*



«Свобода – это в первую очередь возможность выбора, – говорит Корягин своим подписчикам в социальных сетях. – Я понял это в 17 лет, когда начал вести самостоятельную жизнь. Свобода – это еще и внутренняя независимость от внешних факторов: статуса, материального положения и мнения других людей, – и она не позволила мне сломаться.

Примитивные невежи, живущие только своими инстинктами, извращенно воспринимают само понятие свободы, видя в ней разврат, доминирование, подчинение и насилие над другими, что действительности не соответствует.

Свобода в чистом виде неразрывно связана с ответственностью за принятые решения, поступки, жизнь и все то, что в ее пределах имеет для тебя значение: мысли, чувства, действия, путь реализации и становления себя.

Слушая паразита, подсаженного тебе в голову, ты передаешь ему бразды управления собственной жизнью, превращаясь в покорного раба, служащего системе навязанных тебе с рождения ценностей. Системе невыгодно, чтобы ты был независимым, руководствовался собственными идеями и интересами, вел осознанную жизнь и стремился к максимальной самореализации, – и она помогает тебе «не оступиться».

Тот, кто не стремится быть свободным, духовно мертв, оболочка гниющего заживо сердца. Такое сердце не может выбирать, оно не способно испытывать счастье. А ведь это не так уж и сложно – взращивать в себе настоящую свободу. Слушайте свое сердце, живите так, как нравится, – не вырывайте с мясом свои крылья и не давайте делать это другим. Парите по жизни и наслаждайтесь этим полетом!

Время неумолимо несет мою жизнь вперед, с каждым годом наращивая обороты, бросая ее то вверх к самому небу, то на самое темное дно, тем самым помогая мне расти, развиваться и укрепляться духовно. Для меня есть только один способ выживания – никогда не сдаваться!

Хочу пожелать каждому не заморачиваться над тем, что о вас подумают другие, важно лишь быть предельно честным с самим собой, только так можно обрести внутреннюю гармонию.

Не поддавайтесь стадному рефлексу, большинству людей вообще не нужна правда. Им проще поверить гороскопам, чем смириться с действительностью. Большинство ищет оправдания: «Это судьба», «Такова воля Божья», «Просто не повезло», «Удача отвернулась от меня». Но все это бред. Есть лишь выбор, решение и стечение обстоятельств. Чем дольше вы будете искать различные отмазки и способы успокоения, тем меньше времени останется на исправление ошибок и саму жизнь. Помните, что судьба не дает нам испытаний, которые мы не смогли бы преодолеть!»

**Вера ВИР.**

### Кто такой Алексей Корягин?

Свой первый предпринимательский опыт Алексей Викторович получил в десятилетнем возрасте: начал собирать и сдавать в аптеки васильки, которые оказались самыми «маржинальными» в сочетании «трудозатраты / цена заготовки» среди лекарственных растений. На васильках получил и первый опыт найма – к заготовке привлек деревенских мальчишек и девчонок, а также прошел через первые сложные переговоры с «недобросовестным поставщиком». На собственном опыте убедился в том, что вопросы надо решать, обосновывая свою позицию, и хорошо усвоил урок, что в любом деле надо бы иметь про запас какую-то альтернативу.

Далее были другие жизненные уроки, в том числе достаточно болезненные: возможность быстро заработать вместе с МММ и потеря всех вложенных средств, оптовые поставки джинсов из Турции, торговля турецким трикотажем. Когда было трудно, старался подбодрить себя известной поговоркой: *«В минуты отчаяния начинает дуть попутный ветер»*.

В начале 2000-х годов он основал компанию «Диамантпром», ставшую ведущим импортером золота в стране. Трижды ее признавали лучшим оптовым предприятием Беларуси.

Бизнес Алексея Корягина эволюционирует: от оптовой торговли перешел к розничной. Сейчас в активе у бизнесмена порядка 40 ювелирных магазинов, объединенных в сети «7 карат» и «Diamante» и управляемых компанией «Платина-Груп». Следующий шаг – собственное производство такой продукции.

Оглядываясь на свой путь предпринимателя, Алексей Корягин делает вывод, что в жизни все познается методом проб и ошибок: *«Даже если в 100 случаях не получилось, надо попробовать сто первый раз. Возможно, ваша конверсия как раз равна 101-й попытке. Надо пробовать»*.

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# Маленькая вуліца вялікага кампазітара

Днямі славутая гімнастка **Меляціна Станюта** расказала ў сацыяльных сетках, што яе не пусцілі на вуліцу імя яе прабабулі – народнай артысткі СССР **Стэфаніі Станюты**. Справа ў тым, што імем легенды беларускага тэатра названа невялікая вуліца ў элітным сталічным катэджным пасёлку каля Цнянскага вадасховішча, які абнесены плотам і мае на ўваходзе шлагбаум.

Ва ўдавы іншай беларускай знакамітасці, кампазітара **Яўгена Глебава, Ларысы Васільеўны** ёсць свая гісторыя пра тое, як яна шукала ў Мінску вуліцу, якая носіць імя яе мужа.

– Я ведала, што недзе ў раёне Нацыянальнай бібліятэкі з'явілася вуліца Глебава, – расказвае Ларыса Васільеўна. – Нeяк нядаўна апынулася па справах у бібліятэцы і, калі трэба было вяртацца дадому, выклікала таксі і папрасіла спачатку адвезці мяне на вуліцу Яўгена Глебава. Кіроўца кіўнуў галавой: маўляў, прыблізна ведаю, дзе гэта...

Вуліца сапраўды знаходзіцца недалёка ад біблія-тэкі, за вуліцай Скарыны, у раёне элітнай забудовы каля воднага канала Сляпянкі. Але як мы яе шукалі! Ехалі па цэнтральнай вуліцы пасёлка – Язмінавай, як раптам таксіст ўбачыў указальнік-стрэлку «Вул. Яўгена Глебава», напрамак, куды яна вядзе. Завярнулі налева, а там... шлагбаум на ўездзе, некалькі незаселеных і недабудаваных катэджаў, а наперадзе – лес! Як пажартаваў таксіст, маленькая вуліца вялікага кампазітара.

**– Крыўдна?**

– Першай рэакцыяй было здзіўленне. Потым, калі ўсё ўсвядоміла, зразумела, што гэта сапраўды неяк няправільна, прыкра. Мне няёмка за тых, хто ўсё гэта ладзіў. Быццам бы ёсць вуліца, быццам бы ў прэстыжным жылым раёне, але схаваная ад людскіх вачэй. Ды і назваць вуліцай такі апендыкс нельга, у лепшым выпадку – завулак. Няўжо гэта ўсё, чаго варты Яўген Аляксандравіч?! У цэнтры Мінска і іншых шматлюдных месцах сталіцы ёсць столькі вуліц, якія носяць імёны людзей, ніяк не звязаных з Беларуссю, а тут свой чалавек! Яўген Аляксандравіч столькі зрабіў для айчыннай музыкі! Няўжо ён не варты іншай памяці?!



**– Слабое суцяшэнне, але вуліцы аднаго з сяброў Глебава – Васіля Быкава – дагэтуль няма ў Мінску. І ў пасёлку побач з вуліцай Глебава такім жа невялічкім вулачкам далі імёны выбітных беларусаў, якія ўнеслі значыны ўклад у нашу гісторыю, культуру, – Валенцію Ваньковічу, Браніславу Тарашкевічу, Ігнату Дамейку, Ігнату Буйніцкаму...**

– Нядаўна, дарэчы, была ў музеі-дачы Васіля Быкава ў Ждановічах на мерапрыемстве, прысвечаным сумеснай творчасці Быкава і Глебава. Мы якраз там успаміналі, што ў мінулым годзе Мікалай Чаргінец ўздымаў пытанне аб тым, каб у Мінску нарэшце з'явілася вуліца Быкава. Але Мінгарвыканкам тады адказаў, што, маўляў, новых вуліц не ўзнікае, а старыя перайменоўваць вельмі стратна. Вось мы і маем ў цэнтры Мінска вуліцы Камсамольскую, Інтэрнацыянальную, Леніна, Маркса, Энгельса, Урыцкага, праспект Дзяржынскага, праспект Газеты «Праўда» (якая ўжо даўно не існуе), а для сапраўдных беларусаў, спрадвечна нашых, альбо адшукалі завулкі каля лесу, альбо ўвогуле не знайшлі вуліцы. Як так?

Мне здаецца, сёння, калі мы бачым, што адбываецца ва Украіне, проста неабходна папулярызаваць спрадвечна наша, беларускае, а не прыцягнутае, штучнае. Але мы маем тое, што маем. І нікому з высокіх чыноўнікаў, як ні дзіўна, не сорамна.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

КУЛУАРЫ

# Сергей Черечень пожал руку Александру Квасьневскому

*Председатель партии «Белорусская социал-демократическая Грамада» **Сергей Черечень** лично познакомился сразу с двумя бывшими президентами Польши – Лехом Валенсой и Александром Квасьневским.*

– Мы сейчас проводим достаточно много международных встреч, – *рассказал «Народной Воле» Сергей Черечень*. – Меня с бывшими президентами Польши познакомил Станислав Шушкевич. Полезное общение с хорошими и умными людьми. Почему бы нет? Мне кажется, чем больше знакомств и встреч с такими харизматичными персонами, тем лучше. Мы обсуждали вопросы международной политики, сегодняшние отношения Польши и Беларуси, развитие двусторонних отношений в будущем.

**Галина РУТ.**





КАК ЭТО БЫЛО

# Патрисия Каас попросила в Минске… картошку и пирожок

*Известный в прошлом белорусский продюсер, директор продюсерского центра «Класс-Клуб ДК», обладатель лицензии на концертно-гастрольную деятельность в Беларуси №1 **Геннадий Шульман** сейчас живет в Москве. Но часто вспоминает свою белорусскую жизнь.*

– Однажды я в Минск пригласил Патрисию Каас, – *вспоминает Геннадий Шульман. Это был первый приезд известной французской актрисы и певицы в Минск. Она тогда выступала в концертном зале «Минск»*. – Это была наша первая мировая звезда, мы очень готовились. И волновались. Хотели, чтобы все было по высшему разряду. Поэтому вечером после концерта повезли певицу и ее команду в «Іспанскі куток» – лучший на то время ресторан в городе Минске. Находился он в самом центре, окна выходили на проспект, ГУМ, универсам «Центральный» и «Макдональдс».

В общем, был вечер, и вид из окна был очень красивый. Мы все расселись, и нам начали подавать еду. Все было невероятно вкусно! И только Патрисия ничего не ела и грустно смотрела в окно…

После смены нескольких шикарных блюд, к которым Каас даже не притронулась, я подошел к ее директору и на ушко спросил: «А что же Патрисия совсем не кушает? Ей не нравится наша еда?» Олег Чельцофф, директор коллектива, тут же перевел ей мое недоумение. Она посмотрела на меня своими грустными глазами и что-то шепнула Олегу в ответ. Олег одобрительно мотнул головой, повернулся ко мне и сказал: «Она хочет гамбургер, картошку и пирожок...»

**Алина ВЕТРОВА.**



НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

# Івану Луцкевічу прысвячаецца…

*Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы 20 жніўня адкрывае выставу да 100-годдзя з дня смерці Івана Луцкевіча. Гэта будзе першая ў гісторыі асобная выстава, прысвечаная Івану Луцкевічу. Яе ладзяць пры ўдзеле Амбасады Літвы ў Беларусі. Арганізатары выставы называюць Івана Луцкевіча «прыкладам самаахвярнага служэння Радзіме».*

Іван (Ян Герман) Луцкевіч нара-дзіўся ў 1881 годзе ў Шаўлях, што цяпер у Літве, у сям'і ўдзельніка паўстання Каліноўскага. Быў адным з заснавальнікаў Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады (1903), з ягонай ініцыятывы выдаваліся газеты «Наша Доля», «Наша Ніва» і «Гоман», было заснавана Беларускае выдавецкае таварыства (1913), у Вільні былі адкрыты Беларускі клуб і першая беларуская гімназія.

Разам з братам Антонам быў адным з заснавальнікаў першай у Вільні масонскай ложы «Лучнасць». Антон Луцкевіч быў адным з ініцыятараў абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

У 1919 годзе Іван Луцкевіч памёр ад сухотаў.

«*Старэйшыя браты Луцкевічы адыгралі важную ролю ў жыцці Янкі Купалы*, – адзначаюць арганізатары выставы. – *Менавіта Іван і Антон Луцкевічы запрасілі паэта на працу ў рэдакцыю газеты «Наша Ніва», тым самым далучыўшы яго да беларускага руху. Малодшы брат Стэфан уратаваў жыццё Песняра, аказаўшы першую медыцынскую дапамогу, калі той учыніў спробу самагубства ў лістападзе 1930 года падчас сталінскіх рэпрэсій*».

На выставе абяцаюць паказаць матэрыялы са збору музея Купалы, Архіва-музея літаратуры і мастацтва, вільнюскай арганізацыі «Беларускі музей імя Івана Луцкевіча», асабістыя рэчы Івана Луцкевіча, якія захаваліся ў сям'і.

У час адкрыцця выставы будзе асвечаны памятны камень на месцы колішняй сядзібы Луцкевічаў у парку Купалы. У 18.30 у касцёле Святога Роха, што на Залатой Горцы, пройдзе адмысловая імша.

Выстава будзе працаваць да 11 верасня.

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

## Аляксандр Саладуха паехаў у Турцыю

*Заслужаны артыст Беларусі адпрацаваў амаль усё лета, а цяпер вырашыў звазіць сям'ю на мора.*

«У гэтым годзе ўзялі Нацыянальны алімпійскі стадыён «Дынама», цяпер можна і адпачыць, – зрабіў справаздачу спявак. – Ляцім у Турцыю».



## Вольга Барабаншчыкава разам з дачкой у Харватыі

*Тэнісістка і дызайнер Вольга Барабаншчыкава даволі часта вандруе разам з маленькай дачкой. На гэты раз яна паехала ў краіну, дзе больш за 1000 астравоў, прычым каля 600 з іх незаселеныя.*

«У нас тут бяда з вайфаем, ужо некалькі разоў роўтары мянялі, але... Як ёсць, так ёсць! – распавяла пра свой харвацкі адпачынак Вольга. – Думаю, да лепшага! Будзе больш часу атрымаць асалоду ад навакольнай прыгажосці, зносін і кніг».

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**



